


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 8(678)**
**Жнівень 2022 г.**


# Марш Паняволеных Народаў

У нядзелю, 17 ліпеня, на Мангэтане ў Нью-Ёрку прайшлі мерапрыемствы, зьвязаныя з адкрыцьцём Тыдня Паняволеных Народаў. Гэта шэраг мерапрыемстваў для прыцягненьня ўвагі амэрыканскай грамадзкасьці да становішча народаў, што працягваюць знаходзіцца пад уціскам камуністычных, посткамуністычных ды кожных іншых тыраніяў і дыктатураў.

Тыдзень Паняволеных Народаў быў запачаткаваны ў 1959 годзе адмысловым урадавым законам-загадам прэзыдэнта Айзэнгаўэра, што пасьля быў зацьверджаны Кангрэсам ЗША як грамадзкі закон, і ён дзейнічае да сёнешняга дня. Гістарычна Тыдзень Паняволеных Народаў стаў пляцоўкай і нагодай для выказваньня пратэсту супраць расейскага камуністычнага імпэрыялізму і супраць злачынных рэжымаў у Эўропе, Азіі, Лацінскай Амэрыцы, а таксама ў Кітаі, што хаўрусавалася з расейцамі. Быў створаны Камітэт Паняволеных Народаў, які праводзіў і каардынаваў ня толькі імрэзы Тыдня Паняволеных Народаў, але і кожную працу, скіраваную на дапамогу паняволеным народам.

Заснавальнікамі яго былі эміграцкія арганізацыі з Эўропы й Азіі. На працягу ўсіх тых гадоў камуністычнага панаваньня і аж да рэвалюцыяў пачатку 1990-х гадоў прадстаўнікі эміграцыйных арганізацыяў народаў, якія былі паняволеныя расейскім камунізмам: эстонцаў, мадзяраў, латышоў, славакаў, украінцаў, чэхаў, баўгараў, палякаў, казакоў, харватаў, летувісаў ды іншых ладзілі сумесныя мітынгі пад савецкімі дыпляматычнымі прадстаўніцтвамі, рабілі пікеты, распаўсюджвалі публікацыі, працавалі з сэнатарамі й кангрэсмэнамі і з прэзыдэнцкімі адміністрацыямі.

Сярод заснавальнікаў Камітэту былі таксама беларускія грамадзкія арганізацыі ў Амэрыцы. Пад кіраўніцтвам Камітэту Паняволеных Народаў на працягу дзясяткаў гадоў на кожны трэці тыдзень ліпеня Нью-Ёрк рабіўся трыбунаю масавых дэманстрацыяў і публічных акцыяў прадстаўнікоў усіх краінаў Усходняй Эўропы і Азіі, якія падмяў пад сябе маскоўскі бальшавізм. Адным з адмысловых мерапрыемстваў Тыдня была дэманстрацыя Паняволеных Народаў каля Статуі Свабоды на 200-годзьдзе ЗША. У 1988

*заканчэньне на бачыне 2*

# Марш Паняволеных Народаў

*заканчэньне з бачыны 1*




годзе, на 30-годзьдзе Тыдня, у ягоных падзеях узяў удзел прэзыдэнт Рональд Рэйган, які ў сваёй прамове ў прыватнасьці сказаў: “Сябры, паверце, Амэрыка ніколі не забудзецца на пакуты паняволеных народаў па ўсім сьвеце! Мы ніколі не перастанем казаць праўду. Вашае змаганьне ёсьць і нашым змаганьнем. Вашая мара – ёсьць і нашай марай. І аднойчы вы пераможаце, аднаго дня вы зробіцеся вольныя!”

Штогод беларускія арганізацыі бралі актыўны ўдзел у імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў, і асабліва вылучалася Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА). Затое сёлета, як і скрозь за апошнія гады, луналі бел-чырвона-белыя сьцягі сябраў Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”, якое афіцыйна бярэ ўдзел у Тыдні, што пачынаецца Маршам Паняволеных Народаў, з 2012 году, амаль што ад самага моманту свайго заснаваньня.

Вось ужо шмат гадоў не відаць на імпрэзах Тыдня і прадстаўнікоў тых усходнеэўрапейскіх ды азіяцкіх арганізацыяў, што некалі задавалі тон змаганьню і пашырэньню ўплываў. Там дзе няма ўплываў тых нацыяў, зьяўляюцца іншыя ўплывы – кітайскія, расейскія, іранскія, у тым ліку тут, у ЗША.

Дзеля таго, што 23 лютага сёлета пачалася агрэсіўная вайна расейскіх кіруючых колаў супраць Украіны, было б лягічна чакаць масавага ўдзелу ўкраінцаў селета, але ўсе блакітна-жоўтыя сьцягі на імпрэзу прынесьлі беларусы.

Напачатку ўдзельнікі імрэзы сабраліся а 9-й гадзіне каля гатэлю “Пляза” пры 59-й вуліцы і 5-й авэню. Затым удзельнікі калёнаю прайшлі да Сабору Сьв. Патрыка пры 50-й вуліцы. Напачатку, пры браме, адбылося асьвячэньне сьцягоў, а затым у Саборы адбылася імша за паняволеныя народы й за вызваленьне іх ад уціску і дыктату. Сьцягі высьвячаў пробашч Сабору айцец Браян Грэбэ, які таксама ўзгадваў паняволеныя народы і падчас літургіі, і ў сваёй казані.

Пасьля імшы ўдзельнікі імпрэзы сфатаграфаваліся разам на прысутках Сабору са сьцягамі, плякатамі і лёзунгамі. Затым яны прайшлі Маршам па 5-й авэню да 59-й вуліцы і потым да Мэйнманумэнту ў Цэнтральным парку, ля якога распачалося адкрыцьцё Тыдня Паняволеных Народаў.

Падчас Маршу гучэлі лёзунгі “Жыве Беларусь!”, “Свабоду паняволеным Народам!” “Свабоду Беларусі!”, “Беларусь – ТАК! Лукашэнка – НЕ!” Скрозь на маршы дамінавалі беларускія нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі, маршыруючыя несьлі транспарант Камітэту Паняволеных Народаў, плякаты “Свабоду палітвязьням”, “Украіна пераможа расейскі фашызм!”, “Жыве Беларусь”. Гучэлі заклікі “Свабоду Беларусі!”, “Свабоду Кубе!”, “Свабоду Віетнаму!”, “Свабоду Ганкогу!”, Свабоду Вэнэсуэле!”, “Свабоду Тыбэту!”, “Свабоду ўсім паняволеным народам!”

У Цэнтральным парку адбылося афіцыйнае адкрыцьцё Тыдня Паняволеных Народаў, якое адкрыў уступным словам сп. Яан Куўм, старшыня Камітэту Паняволеных Народаў, прадстаўнік амэрыканска-эстонскай і кубінскай грамады. Былі зачытаныя праклямацыі ад губэрнатара штату Нью-Ёрк і кіраўніцтва Камітэту Паняволеных Народаў.

Ад беларускай грамады выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка, які прывітаў прысутных, распавёў пра Марш і Тыдзень і заклікаў пашыраць інфармацыю пра беларускія імпрэзы, у тым ліку імпрэзы “Пагоні”. Сп. Я. Куўм прачытаў ліст ад прэзыдэнта ЗША Д. Байдана, у якім той з досыць слушнай агрумэнтацыяй згадаў Паняволеныя Народы й Украіну і ўстрымаўся ад задужа лявацкіх фармулёвак, што прагучэлі ў летась.

Затым у скарочаным фармаце прайшоў ліпеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”, на ім вырашаліся тэхнічныя пытаньні, прагучэлі аб’явы.

**Віталь ЗАЙКА**



# Канцэрт у дапамогу змаганьню Ўкраіны супраць расейскай агрэсіі

У нядзелю, 10 ліпеня, ва Ўкраінскім Доме на 2-й авэню на Мангэтане прайшоў дабрачынны канцэрт, мэтай якога быў збор сродкаў на дапамогу Ўкраіне ў супрацьстаяньні расейскай агрэсіі. Імпрэза была арганізаваная Фундацыяй Крэчаўскага, Беларускім Інстытутам Амэрыкі і Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА). Гэтая імпрэза прайшла ў рамках Беларускага Культурніцкага Тыдня-2022, а ўсе сродкі, здабытыя ад канцэрту, былі скіраваныя на дапамогу тым украінскім сем'ям, што пацярпелі ад расейскай агрэсіі й вайны.




Выступоўцамі былі беларускія опэрныя сьпевакі Маргарыта Ляўчук (сапрана) ды Ільля Сільчукоў (барытон), якія ўжо маюць дасягненьні й прызнаньне на міжнароднай опэрнай сцэне. Сёньня, у часы, калі застаецца рэальнай небясьпека ўцягненьня рэжымам Лукашэнкі войска РБ ў наўпроставы ўзброены канфлікт і вайну па загадзе кіруючых колаў Расеі супраць братняй беларусам Украіны. Таму дадатковай мэтай акцыі было давесьці, што беларусы стаяць разам з украінцамі супраць расейскага шавінізму і гатовыя словам, справай, музыкай, мазольным далярам дапамагчы братам, неўзіраючы на тое, што апошнім часам знаходзіцца ці мала "фахоўцаў", што гатовыя пасварыць беларусаў і ўкраінцаў на глебе дзеяньняў рэжыму зь Менску. Дарэчы, і Маргарыта, і Ільля вядомыя сваімі крытычнымі выказваньнямі супраць рэжыму Лукашэнкі.

Пачаўся канцэрт дружным агульным сьпевам рэлігійнага гімну "Магутны Божа". Затым духовыя сьпевы "Муж Буй" (Псальм 52), "Божа, помачы тваёй", Арыя Касі з опэры "Чужое багацьце", палянэз Агінскага, "Прасьнічка" Манюшкі, "Ліра мая" Манюшкі-Сыракомлі, "Кум і кума" Манюшкі-Чачота.

У праграме былі выкананыя беларускія народныя і клясычныя сьпевы, сярод якіх шэраг песьняў, што досыць рэдка, а некалькі й упершыню, былі выкананыя для шырокай аўдыторыі, а таксама шэраг украінскіх сьпеваў – "Літо", "Віюць вітры". Акампанавала на раялі таленавітая піяністка Тацяна Лойша. Прагучэў таксама сьпеў "Прайду няўхільна цяжкі шлях", прысьвечаны сучасных ваярам баталёну Каліноўскага. Прысутныя ўшанавалі памяць загінулых каліноўцаў хвілінай цішы.



Пад канец імпрэзы прысутныя разам са сьпевакамі засьпявалі ўкраінскую "Чэрвону каліну", а затым "Купалінку" і песьні на словы Максіма Багдановіча "Зорка Вэнэра" і "Пагоня". У масавасьці падпяваньня "Пагоні" пашанцавала менш, але яшчэ ёсьць на чым працаваць.

Пасьля імпрэзы музыкі падзякавалі прысутным за падтрымку і цёплае прыняцьце. Спадарыні Ала Орса-Рамана і Валянціна Трыгубовіч ад Фундацыі Крэчаўскага падаравалі выканаўцам памятныя падарункі й выданьні, зьвязаныя з жыцьцём беларускай эміграцыі. Да падзякаў праз падарункі далучыліся таксама прадстаўнікі БАЗА і старшыня спня Натальля Федарэнка.

Пасьля прысутныя мелі нагоду шчыльней калегавацца з музыкамі пры сьціплых пачастунках і шклянцы віна. Сярод прысутных, што калегаваліся з гасьцямі, быў заўважаны славуты беларускі сьпявак Данчык (Багдан Андрусышын), праз творчасьць якога шмат хто і ў Беларусі й на чужыне прыйшоў да беларускай песьні.

Канцэрты опэрных выканаўцаў (а Ляўчук нават уваходзіць у катэгорыю "опэрная славутасьць" – опэрная дыва) ужо адбыліся ў Бостане, і затым прайшлі ў Вашынгтоне (акруга Калюмбія), Мінэапалісе, Сан-Францыска й шэрагу іншых мясьцінаў Амэрыкі.

***Віталь ЗАЙКА***

# Пра “аб’яднаньне ўсіх дэмакратычных сілаў”

Перыядычна ў Беларусі і сярод беларусаў за мяжой і, звычайна, у таталітарных рэжымах зноў і зноў узьнікае пытаньне пра “аб’яднаньне ўсіх дэмакратычных сілаў”. Пра сутнасьць такіх намераў даўно вядома, але варта паўтарыць.

“Аб’яднаньне ўсіх дэмакратычных сілаў” – гэта тыповы антыдэмакратычны таталітарны тэзіс, які зьяўляецца, як правіла, у аўтарытарных і таталітарных краінах са слабым узроўнем дэмакратыі і ўсталяваным кантролем спэцслужбаў над грамадзтвам.

Дэмакратыя прадугледжвае множнасьць пазыцый і арганізацый, стварае такім чынам дэмакратычную грамадзянскую супольнасьць, якая адлюстроўвае шырокі спэктар грамадзтва. У гэтым – прырода і структурная сутнасьць дэмакратычнага грамадзтва. Яно па прыродзе сваёй ня можа стаць уніфікаваным.

Заклікі да аб’яднаньня ўсіх дэмакратычных арганізацыяў (партыяў і т. п.) у адну форму дзеля быццам бы лепшага змаганьня супраць улады з аргумэнтацыяй, што аб’яднаньне павялічыць моц, – такія прапановы, як правіла (і першым чынам), зыходзяць ад агентуры рэжыму ўлады і наступнае – ад палітычна маладасьведчаных людзей (звычайна толькі з тэарэтычным багажом паняцьцяў), якія часта зьяўляюцца агентамі ўплыву з боку структураў рэжыму.

Для рэжыму ўлады і агентуры рэжыму (спэцслужбаў і палітычнага сыску) злучэньне дэмакратычнай множнасьці ў адну форму значна палягчае кантроль над людзьмі і ўплыў на дзеяньні аб’яднанай арганізацыі. Для антынароднага палітычнага рэжыму ўніфікацыя апазыцыйных арганізацый і суполак у адну сілу аблягчае таксама правядзеньне рэпрэсіяў і ў часы палітычнага абвастрэньня ці крызісу дае магчымасьць адным махам забараніць і разграміць усё. Пры множнасьці такое зрабіць, практычна, немагчыма безь вялікага скандалу (не ў карысьць улады) і вымагае доўгага часу (асобныя працэсы, сьледзтва, аргумэнтацыя і т. п.).

У звыклай (сыстэмнай) грамадзкай сытуацыі ўніфікацыя дэмакратычных арганізацыяў не адбываецца, нягледзячы на стараньні агентуры, “тэарэтыкаў” і прастакоў. Яна ў звыклай сытуацыі ў прынцыпе не патрэбная.

Тым часам у час выбараў у дэмакратычнай краіне, дзе дзейнічаюць законы, магчымае часовае кааліцыйнае злучэньне арганізацыяў (партыяў) ў пэрыяд выбарчай кампаніі ў парлямэнт і ў час дзейнасьці ў парлямэнце.

Такая кааліцыя заўсёды абмежавана і прадвызначана часовымі рамкамі, часовымі задачамі і тэрмінамі і будуецца не на прынцыпах, а на кампрамісах. Адзінства яе ўмоўнае. Гэта ня ёсьць аб’яднаньне, а толькі парлямэнцкая форма дзейнасьці розных арганізацыяў (партыяў).

Падсумоўваючы напісанае і камэнтуючы чарговую афёру з быццам бы аб’яднаньнем прарасейскіх, завязаных на чужыя датацыі груп, у нібыта беларускі нацыянальна-вызвольны рух, трэба адзначыць ужо вядомую па прыродзе зьявы пустапарожнасьць такой задумы. Стварэньне нацыянальна-вызвольнага руху магчымае толькі на нацыянальных прынцыпах (якія найперш мусяць быць), а не на надзяваньні беларускіх нацыянальных масак і на разьмеркаваньні чужых датацый.

Нядаўна пра такую чарговую падставу аб’явілі групікі псэўдапазыцыі (Латушка-Ціханоўская-Цапкала). З прафанацыі нічога не атрымаецца. Рэальны нацыянальна-вызвольны рух не ствараецца “раймонамі”.

Тут у прафанатараў дзьве задачы: імітаваць”дзейнасьць” і атрымаць гранты, і наступная – галоўная – заблытаць беларусаў, якія шукаюць беларускіх шляхоў да нацыянальнага вызваленьня, адвярнуць іх (хоць бы часова) ад нацыянальна-вызвольнага руху “Вольная Беларусь”.

Але і тут у іх не атрымаецца. Нацыянальна-вызвольны рух не ствараецца зьверху і абы кім. Нацыянальна-вызвольны рух разьвіваецца зьнізу, калі ёсьць агульныя нацыянальныя прынцыпы руху і пасьлядоўнікі. Сьцяг “Вольнай Беларусі” даўно падняты, праграма і прынцыпы вядомыя. Ствараймо вольныя суполкі на гэтых прынцыпах і ўлучайцеся ў рух за вольную Беларусь (асабліва ў Беларусі, дзе трэба дзейнічаць у падзем’і). Рух за мяжой мае легальнае вымярэньне, якое з цягам часу будзе фармалізавана.

Слава Айчыне!

*8 ліпень 2022 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| А. Вільбік | 70 |
| Д. Баньнікаў | 60 |
| В. Едзіновіч | 60 |
| В. Казлоў | 60 |
| К. Макарэвіч | 60 |
| Е. Пыльская | 60 |
| М. Рабікаў | 60 |
| В. Хобатаў | 60 |
| А. Ярашэвіч | 60 |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня“Пагоня”** ***Viktar Yedzinovich.***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

--------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных “Пагоняй”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”, калі ласка, сваечасова аплочвайце сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь ***“Весткі й Паведамленьні”.*** *(інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

| | |
|---|---|
| Д. Баньнікаў | 30 |
| А. Вільбік | 30 |
| В. Казлоў | 30 |
| Е. Пыльская | 30 |
| М. Рабікаў | 30 |
| П. Скрабко | 30 |
| Я. Кацярыніч | 20 |

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich.***